# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

ЛІСТАПАД 1995
НЕЗАЛЕЖНАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ҐАЗЭТА
НАКЛАД 999 АСОБНІКАЎ
КОШТ ПА ДАМОЎЛЕНАСЬЦІ

Як вядома, 26 лістапада ў Віцебску адбываўся з'езд беларускіх нацыяналістаў. Гэтая падзея атрымала дастатковы рэзананс у рэспубліканскім друку (гл. напрыклад «Народную газету» за 30 лістапада). Паколькі размовы ў прэсе вяліся ў асноўным вакол зьнешня стараны падзеі, хочам зьвярнуць увагу на некаторыя істотныя моманты. Па-першае, зьезд такі не прывёў да выканання сваёй галоўнай задачы, заяўленай арганізатарамі - утварэньня каардынацыйнага цэнтра («альянса») права-радыкальных сіл Беларусі. Прычынай зьявіліся непаразуменьні паміж арганізатарамі, у выніку чаго зьезд райшоў фактычна як устаноўчы сход Нацыяналістычнай арганізацыі «Правы рэванш», іншыя арганізацыі - Беларуская партыя свабоды і Беларуская нацыянальная партыя - прысутнічалі ў якасьці назіральнікаў.

Затое можна лічыць, што другую сваю задачу - рэкляму нацыяналістычнага руху на Беларусі зьезд выканаў пасьпяхова, і нішто так не спрыяла гэтаму, як актыўнае супрацьдзеяньне з боку праваахоўных органаў. Кампанія з пошукам выбуховага прыстасаваньня ў п мяшканьні, дзе меўся праходзіць з'езд, разгон дэманстрацыі, арышты арганізатараў - усё гэта хоць і сарвала фактычна работу зьезда, але ператварыла яго ў шумную акцыю, пра якую даведалася ўся краіна.

## Сэмінар у Віцебску

16-17 лістапада прадстаўнікі ЗБС удзельнічалі ў рабоце рэспубліканскага студэнцкага сэмінара «Студэнты – дыялог – будучыня», арганізаванага Асацыяцыяй студэнтаў ВНУ Віцебскай вобласьці пры фінансавай падтрымцы Фонду Сораса і прымеркаванага да міжнароднага Дня студэнта.

## АБ'ЯВА

Пачаў работу аргкамітэт па падрыхтоўцы Другой нацыянальнай канфэрэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». У яго ўвайшлі прадстаўнікі Таварыства Бнларускай Мовы, Міністэрстваў адукацыі і навукі, культуры і друку, Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.

На канфэрэнцыі, запланаванай на 18-19 траўня 1995 г., будуць разглядацца тэарэтычныя і прыкладныя праблемы распрацоўкі, сістэматызацыі і выкарыстаньня беларускай навуковай тэрміналогіі ў розных галінах навукі, тэхнікі, культуры і народнай гаспадаркі. Заяўкі на ўдзел у канфэрэнцыі можна падаваць да 15 лютага на адрас ТБМ: 220005, Менск, вул.Румянцава, 13 або Тэрміналягічнай суполкі ЗБС. Даведкі па тэлефонах 332511, 394447 (сакратар аргкамітэту Сьвятлана Бельская), 687076 (старшыня Тэрміналягічнай суполкі ЗБС Аляксей Глушко).

# ПАСТУПЛЕННЕ Ў ВЫШЭЙШЫЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ



**Матэрыялы камісіі ЗБС па правах студэнтаў**

**1. Хто мае права на бясплатнае атрыманьне вышэйшай адукацыі?**

Грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне іншых краін і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, калі вышэйшая адукацыя атрымліваецца ўпершыню.

**2. Ці з'яўляюцца правілы прыёму агульнымі для ўсіх ВНУ ?**

Кожная вышэйшая навучальная установа распрацоўвае уласныя правілы прыёму, якія пры гэтым не павінны супярэчыць Тыпавым правілам, зацьверджаным Міністэрствам адукацыі і навукі, і павінны быць узгоднены з міністэрствам.

## ПАДАЧА ЗАЯЎ НА ПАСТУПЛЕНЬНЕ

**3. Якія дакументы трэба падаваць ў прыёмную камісію?**

У прыёмную камісію падаюцца або дасылаюцца: заява на імя рэктара, дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, 6 фотакартак памерам 3х4, медыцынская даведка па форме 086У, а на навучанне без адрыву ад вытворчасці - таксама выпіска (копія) з працоўнай кніжкі. Пашпарт падаецца абітурыентам асабіста. Дакументы паступаючых рэгіструюцца ў кнізе, паступаючаму выдаецца распіска аб прыёме дакументаў.

**4. Якія тэрміны падачы заяў?**

На дзённую форму навучаньня заявы прымаюцца з 27 чэрвеня да 15 ліпеня.

**5. Які далейшы парадак допуску паступаючых да уступных іспытаў?**

У тыднёвы тэрмін з дня рэгістрацыі дакументаў прыёмная камісія прымае рашэньне і паведамляе паступаючым аб іх допуску да ўступных іспытаў і ўмовах удзелу у конкурсе. Дапушчаным да уступных іспытаў напярэдадні іспытаў выдаецца іспытовы (экзаменацыйны) ліст.

## УСТУПНЫЯ ІСПЫТЫ Ў ВНУ

**6. Калі пачынаюцца і заканчваюцца уступныя іспыты ў ВНУ?**

Уступныя іспыты на дзённую форму навучання пачынаюцца 16 ліпеня. На спецыяльнасці мастацтва, ваенныя, на навучанне без адрыву ад вытворчасьці тэрміны прыёму вызначаюць установы падпарадкаваньня навучальных устаноў. Расклад уступных іспытаў абвяшчаецца за тыдзень да пачатку іх правядзеньня. Інтэрвал паміж іспытамі складае, як правіла, не менш чым 2-3 дні. Залічэньне ў склад студэнтаў заканчваецца 5 жніўня.

**7. Колькі можа быць уступных іспытаў і якія іспыты з'яўляюцца абавязковымі?**

Уступных іспытаў можа быць ад 3-х да 5-ці, іх пералік вызначае ВНУ. Абавязковым з'яўляецца іспыт па беларускай мове і літаратуры, калі абітурыент мае адзнаку па гэтых прадметах у дакуменце аб сярэдняй адукацыі.

**8. Ці могуць уступныя іспыты замяняцца гутаркамі?**

Пры адсутнасьці конкурсу ВНУ могуць на некаторыя спецыяльнасьці ажыццяўляць залічэнне на падставе вынікаў гутаркі па прадметах, вызначаных для уступных экзаменаў.

**9. Ці павінны арганізоўвацца для паступаючых перадэкзаменацыйныя кансультацыі ?**

Так, для паступаючых павінны праводзіцца кансультацыі па зьмесьце праграм уступных экзаменаў, а таксама па іншых пытаньнях, зьвязаных з паступленьнем: арганізацыі апытаньня, крытэрыях ацэнкі, прад'яўляемых патрабаваньнях, парадку конкурснага залічэньня, устаноўленых дзяржавай і ВНУ ільготах і г.д.

**10. Па якіх праграмах праводзяцца уступныя іспыты ?**

Праграмы уступных іспытаў зацьвярджаюцца Міністэрствам адукацыі і навукі Рэрпублікі Беларусь і адпавядаюць праграмам сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

**11. Якіх падыходаў прытрымліваюцца пры складаньні экзаменацыйных білетаў ?**

Пытаньні білетаў павінны ахопліваць усю праграму прадмета з улікам як тэарэтычнага, так і практычнага яе раздзелаў. У кожны білет уключаюцца, як правіла два-тры пытаньні, у тым ліку, пры неабходнасьці адна-дзьве задачы або прыклады.

**12. На якой мове здаюцца уступныя іспыты ?**

Уступныя іспыты здаюцца па выбару паступаючага на беларускай або расейскай мове.

**13. Як здаецца уступны іспыт па замежнай мове ?**

Абітурыент можа выбіраць замежную мову, па якой ён здае іспыт, не залежна ад таго, якую замежную мову ён вывучаў у сярэдняй навучальнай установе. Выключэннем з'яўляецца спецыяльнасць «Замежная мова», пры паступленьні на якую абітурыенты здаюць экзамен у адпаведнасці з абранай спецыяльнасьцю.

**14. Які парадак праходжаньня вуснага іспыту ?**

На падрыхтоўку да вуснага іспыту даецца да 1.5 гадзіны. Пры падрыхтоўцы запісы трэба рабіць на спецыяльным аркушы са штампам навучальнай установы, які выдаецца разам з білетам. Вусны экзамен у кожнага паступаючага прымаецца двума экзаменатарамі, а экзамен па спецыяльнасьці - не менш чым трыма экзаментарамі. Дадатковыя пытаньні павінны насіць удакладняючы характар і не выходзіць за межы праграмы. На вусны экзамен адводзіцца да 1/3 акадэмічнай адзіны (15 хвілін).

**15. Які парадак праходжаньня пісьмовага іспыту ?**

На правядзеньне пісьмовага іспыту прадугледжваецца 4 гадзіны (240 хвілін) без перапынку. Пісьмовыя экзаменацыйныя работы (у тым ліку чарнавікі) выконваюцца на лістах-укладышах са штам-

пам навучальнай установы, на якіх не дапушчальныя ніякія пабочныя паметкі і надпісы, і здаюцца экзаменатару. Асобы, якія не пасьпелі выканаць поўнасьцю экзаменацыйныя работы, здаюць іх незакончанымі.

**16. Якімі адзнакамі ацэньваюцца вынікі уступных іспытаў ?**

Могуць выкарыстоўвацца наступныя адзнакі: «5» (пяць), «4.5» (чатыры з паловай), «4» (чатыры), «3.5» (тры з паловай), «3» (тры) і «2» (два). Крытэрыі выстаўленьня адзнакі распрацоўваюцца і зацьвярджаюцца прыёмнай камісіяй.

**17. Якія гарантыі аб'ектыўнай ацэнкі пісьмовых работ ?**

Яны правяраюцца пад шыфрам без указаньня прозьвішча паступоўца. Старшыня экзаменацыйнай камісіі абавязкова правярае пісьмовыя работы, якія ацэнены экзаменатарамі на «2» (два) і «5» (пяць), а таксама выбарачна 5% астатніх работ, праверaных кожным экзаменатарам, і засьведчвае правільнасьць ацэнкі сваім подпісам.

## ПЕРАЗДАЧЫ І АПЕЛЯЦЫІ

**18. Ці мае абітурыент права азнаёміцца са сваёй пісьмовай работай ?**

Так, кожны абітурыент мае права асабіста азнаёміцца са сваёй пісьмовай работы незалежна ад атрыманай адзнакі.

**19. Які парадак падачы і разгляду апеляцыі ?**

Апеляцыі па пытаньні экзаменацыйнай адзнакі апвінны быць абгрунтаваны і падавацца паступаючымі адказнаму сакратару (або яго намесьніку) на імя рэктара ў дзень правядзеньня вуснага іспыту або ў дзень абвяшчэньня адзнакі за пісьмовы іспыт. Парадак падачы і разгляду апеляцый павінен быць абвешчаны разам з Правіламі прыёму ў ВНУ на рэклямным стэндзе, паступаючыя абавязаны з ім азнаёміцца да пачатку уступных іспытаў. Пры разглядзе апеляцыі паступаючых дадатковае іх апытаньне не дапускаецца. Вынікі разгляду апеляцыі паведамляюцца паступаючаму не пазьней, чым на наступны дзень пасьля яе падачы.

**20. Ці дапускаецца пераздача уступных экзаменаў ?**

Не дапускаецца. Абітурыенты, якія атрымалі незадавальняючую адзнаку, а таксама тыя, хто не з'явіўся без паважных прычын на уступны іспыт, да далейшых іспытаў не дапускаюцца. Пры наяўнасьці паважных прычын, пацьверджаных дакументамі, паступаючыя могуць дапускацца да здачы уступных іспытаў з дазволу намесьніка старшыні прыёмнай камісіі ці адказнага сакратара ў межах тэрмінаў правядзеньня іспытаў.

## ПАРАДАК ЗАЛІЧЭНЬНЯ Ў ВНУ

**21. Як адбываецца залічэньне ў ВНУ ?**

Залічэньне ў ВНУ праводзіцца па конкурсе ў адпаведнасьці з колькасьцю балаў, набраных абітурыентамі на уступных экзаменах. Конкурс можа праводзіцца на спецыяльнасьцях, на факультэце, па ВНУ. Парадак правядзеньня конкурса вызначае навучальная установа.

**22. Закрыта ці публічна праводзіцца конкурс ?**

Конкурс і залічэньне ў склад студэнтаў ажыцьцяўляюцца публічна на адкрытым паседжаньні прыёмнай камісіі.

**23.** Абітурыенты, якія станоўча здалі уступныя іспыты, але не прайшлі па конкурсу, могуць залічвацца ў ВНУ для навучаньня на платнай аснове.

**24. Як паведамляюцца вынікі конкурсу ?**

Асобам, якія залічаны, а таксама не залічаны ў склад студэнтаў, накіроўваюцца паведамленьні устаноўленега ўзору. Асобам, якіе не прайшлі па конкурсе, выдаюцца па іх просьбе даведкі аб здадзеных уступных іспытах для ўдзелу ў конкурсе іншых ВНУ.

## ІЛЬГОТЫ ПРЫ ПАСТУПЛЕНЬНІ

**25. Хто залічваецца ў ВНУ без здачы іспытаў?**

Без уступных іспытаў у педагагічныя ВНУ і універсітэты залічваюцца пераможцы (I, II і III месцы) рэспуліканскіх і міжнародных алімпіяд па агульнаадукацыйных прадметах для выпускнікоў школ і педвучэльняў, праведзеных Міністэрствам адукацыі і навукі РБ у гэтым навучальным годзе, пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці. Пераможцы (I, II і III месцы) абласных і Менскага гарадзкога тураў алімпіяд пры паступленні вызваляюцца ад уступнага экзамену па профільнай дысцыпліне з выстаўленнем адзнакі «5» (пяць).

**26. Хто залічваецца ў ВНУ па-за конкурсам?**

Пры атрыманьні станоўчых адзнак на уступных іспытах па-за конкурсам залічваюцца:

1) воіны-інтэрнацыялісты;

2) дзеці інвалідаў вайны і загінуўшых воінаў- інтэрнацыяналістаў;

3) круглыя сіроты і дзеці, што засталіся без апекі бацькоў;

4) інваліды I і II групаў, якім у адпаведнасьці з заключэньнем медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій не супрацьпаказана навучаньне ў ВНУ і якія могуць наведваць заняткі;

5) асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з арт. 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

**27. Хто мае права на пераважнае залічэнне?**

Пры роўных іншых умовах права на пераважнае залічэньне маюць інваліды III групы, якія не маюць медычных супрацьпаказаньняў, і асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасьці з арт. 19, 20, 23, 24, 25 Закона Рэсублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

**28. Якія яшчэ катэгорыі абітурыентаў могуць мець ільготы пры паступленьні ?**

1) Асобы, якія скончылі сярэднюю школу з залатым (сярэбраным) медалём, сярэднюю спецыяльную навучальную установу ці ПТВ (на аснове базавай школы з атрыманьнем сярэдняй адукацыі) з дыпломам з адзнакай;

2) пераможцы алімпіяд, праведзеных ВНУ, і рэспубліканскіх алімпіяд прафесійнага майстэрства выпускнікоў педвучэльняў;

3) асобы, якія скончылі гімназіі, ліцэі, каледжы, вышэйшыя прафесійныя вучэльні, вышэйшыя тэхнічныя вучэльні, і для якіх выпускныя экзамены ў названых установах сумяшчаюцца з уступнымі ў ВНУ.

Парадак залічэньня названых

працяг на старонцы № 4

# ПАСТУПЛЕННЕ Ў ВЫШЭЙШЫЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ



працяг са старонкі № 3

катэгорый абітурыентаў вызначаюць вышэйшыя навучальныя установы.

## АТРЫМАНЬНЕ ДРУГОЙ ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ

**29. На якіх умовах можна атрымаць другую вышэйшую адукацыю?**

Для атрыманьня другой вышэйшай адукацыі ў ВНУ Рэспублікі Беларусь на дзённай, вячэрняй і завочнай формах навучаньня прымаюцца асобы на ўмовах поўнай аплаты навучаньня.

**30. Хто мае права на бясплатнае атрыманьне другой вышэйшай адукацыі?**

1) асобы, якім супрацьпаказана работа па раней атрыманай спецыяльнасьці ў сувязі з пагаршэньнем стану здароўя пры наяўнасьці заключэньня медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій;

2) асобы, якія пераехалі на новае месца жыхарства, дзе адсутнічае работа па спецыяльнасьці, ці страцілі работу, аб чым сьведчыць дакумент службы занятасьці насельніцтва;

3) педагагічныя работнікі пры паступленьні на другую педагагічную спецыяльнасьць пры наяўнасьці хадайніцтва з месца работы.

**31. Якім чынам адбываецца залічэньне для атрыманьня другой вышэйшай адукацыі?**

Пры адпаведнасьці першай адукацыі паступаючых характару навучаньня на другой спецыяльнасьці і пры наяўнасьці месцаў яны залічваюцца як правіла не ніжэй чым на другі курс без здачы уступных іспытаў. Такое рашэньне прымаецца дэканатам факультэта і зацьвярджаецца загадам рэктара. Пры немагчымасьці залічэньня на другі курс у сувязі з неадпаведнасьцю пройдзеных дысцыплін або патрабаваньняў праграмы, жадаючыя атрымаць другую вышэйшую адукацыю паступаюць на першы курс на агульных падставах.

## НАВУЧАНЬНЕ ПА МЭТАВЫМ НАБОРЫ

**32. Для якіх катэгорый паступаючых і на якія спецыяльнасьці праводзіцца мэтавы набор ?**

Мэтавы набор арганізуецца на педагагічныя спецыяльнасьці з мэтай падрыхтоўкі настаўнікаў для школ сельскай мясцовасьці. Заяўкі на мэтавае паступленьне могуць падаваць асобы з сельскай мясцовасьці, а таксама з тэрыторый, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якія маюць накіраваньні абласных упраўленьняў адукацыі.

**33. Чым адрозьніваецца паступленьне па мэтавым наборы ?**

Конкурс на месцы, выдзеленыя для мэтавай падрыхтоўкі, праводзіцца асобна ад агульнага конкурсу згодна з Палажэньнем аб мэтавай падрыхтоўцы педагагічных кадраў.

## НАВУЧАНЬНЕ БЕЗ АДРЫВУ АД ВЫТВОРЧАСЬЦІ (НА ВЯЧЭРНЯЙ АБО ЗАВОЧНАЙ ФОРМЕ)

**34. Хто прымаецца на навучаньне без адрыву ад вытворчасьці?**

1) Выпускнікі сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установаў, якія паступаюць на роднасныя спецыяльнасьці;

2) інваліды, якім не супрацьпаказана навучанне ў ВНУ;

3) вайскоўцы, звольненыя ў запас на працягу трох апошніх гадоў;

4) асобы, якія працуюць па профілю абранай спецыяльнасьці, як правіла, не менш як 6 месяцаў. На астатнія месцы могуць прымацца іншыя асобы на падставе дамоваў паміж ВНУ і зацікаўленымі прадпрыемствамі, калгасамі, фірмамі, кааператывамі, фізічнымі асобамі з аплатай навучання.

**35.** Тэхнічныя ВНУ маюць права самастойна вызначаць правілы прыёму на вячэрнюю і завочную формы навучаньня.

## НАВУЧАНЬНЕ НА ПАДРЫХТОЎЧЫМ АДДЗЯЛЕНЬНІ ВНУ

**36. Хто прымаецца на падрыхтоўчае аддзяленне ВНУ?**

Жыхары рэспублікі (уключаючы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі) з сярэдняй адукацыяй.

**37. Хто вызваляецца ад аплаты за навучаньне на падрыхтоўчым аддзяленьні?**

1) Вайскоўцы, звольненыя ў запас, якія карыстаюцца ўстаноўленымі ільготамі;

2) дзеці-сіроты і дзеці, што засталіся без апекі бацькоў;

3) інваліды I і II груп, якім у адпаведнасьці з заключэньнем медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій не супрацьпаказана навучаньне ў ВНУ і якія могуць наведваць заняткі;

4) асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасьці з арт. 18 Закона Рэсублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС»;

5) асобы, у якіх бацька і маці інваліды II групы або адзін з бацькоў інвалід I групы;

6) дзеці вайскоўцаў, загінуўшых пры выкананьні інтэрнацыянальнага абавязку.

**38. Як арганізуецца здача уступных іспытаў і залічэньне асобаў, якія скончылі падрыхтоўчае аддзяленьне ?**

Гэта вызначаецца палажэньнем аб падрыхтоўчым аддзяленьні канкрэтнай навучальнай установы.

## КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:

1. Палажэнне аб прыёмнай камісіі вышэйшай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь. Зацьверджана загадам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь за 08.02.94 № 37. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўнаых дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь»№ 4 /1994.

2. Тыпавыя правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя установы Рэспублікі Беларусь на 1994 год. Зацьверджаныя загадам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь за 08.02.94 № 37. Апублікаваныя ў «Зборніку нарматыўнаых дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» № 4 /1994.

# Полацкая Езуіцкая Акадэмія

Пад уплывам шырокага грамадзкага руху 21 чэрвеня 1773 году Папа Рымскі Клімент XIV ліквідаваў ордэн«Грамадзтва Езуса». Езуіты былі пазбаўлены ўсіх пасад, званьняў, маёмасьці, калегій, вучэльняў. Яны былі падпарадкаваны нараўне зь іншымі каталіцкімі сьвятарамі дэацэзіяльным біскупам.

Але Кацярына II, не цярпеўшая ніякага умяшальніцтва ў справы сваёй імперыі, жадала выкарыстаць незадаволенасьць супраць Клімента XIV езуітаў, дзеля стварэньня ў Расеі самастойнай і незалежнай ад папкай улады царквы. Таму правы Езуітаў не абмяжоўваліся, ім былі пакінуты ўсе іхнія касьцёлы, нерухомая маёмасьць, калегіі і школы. Цэнтрам дзейнасьці езуітаў стала Беларусь, дзе знайшлі прытулак мноства з іх выгнаных з Польшчы і іншых краінаў Эўропы. Магутнасьць езуітаў дасягнула свайго эпагею пры Паўле I і ягонам міністры веравызнаньня Галіцыне. Яны перастаюць быць сродкам дасягненьня мэтаў расейскае дыпляматыі і наадварот, прымушаюць яе служыць сваім мэтам і падпарадкоўваюць свайму ўплыву пецярбургскае грамадзтва.

У час Аляксандра I, які быў вельмі прадузята настроены супраць езуітаў, яны тым ня менш карысталіся вялікім уплывам. У той час на іх глядзелі як на ворагаў рэвалюцый і ахоўнікаў прэстолаў. Адной з галоўных задач езуітаў было распаўсюджваньне свайго ўплыву на моладзь. Яшчэ Лайола кіраваўся тэзісамі --«будучыня належыць таму, хто трымае ў руках маладое пакаленьне».

Ужо у канцы -- пачатку XIX стагодьдзя езуіты мелі на Беларусі 6 калегіяў, 10 місіяў, валодалі амаль 14 тысячамі сялян. Галоўным цэнтрам паступова стаў Полацак. Аднак з утварэньнем у 1803 годзе Віленскае навучальнае акругі, полацкая езуіцкая калегія трапіла ў залежнасьць ад Віленскага Ўніверсітэта. Бачучы ў гэтым пагрозу свайму існаваньню й дзейнасьці, езуіты вырашылі дабіцца дазволу заснаваць акадэмію«незалежную ад Віленскага ўніверсітэта», але«знаходзячуюся пад ўрадавым кантролем» . Пагроза вайны з Напалеонам а таксама боязь нацыянальна-вызваленчае барацьбы ў заходніх губерніях, прымусілі Аляксандра I пагадзіцца з гэтаю прапановаю. Адпаведны ўказ выйшаў 12 студзеня 1812 году. У распараджэньні гэтае новае акадэміі было пакінута 13 вучэльняў у Полацку, Пецярбурзе, Віцебску, Магілёве, Воршы, Мсьціслаўле, Чачэрску, Клімавічах, Рызе, Астрахані, Адэсе, Раманаве (на Валыні) і ў Саратаве. На тэрыторыі Расеі па-сутнасьці ўтварылася асобая езуіцкая акруга, а Полацак стаў цэнтрам найбольш рэакцыйных сілаў каталіцтва ў краіне.

10 ліпеня 1812 года адбылося ўрачыстае адкрыцьцё акадэміі. У Полацку сабралася вялікая колькасьць шляхты з усяе Беларусі. Быў тут і беларускі генерал-губернатар герцаг Віртэнбергскі, і грэка-вуніяцкі архібіскуп Іаан Красоўскі, і па.... біскуп Дзедзер...(ка). Першым рэктарам акадэміі быў прызначаны доктар багаслоўя Люстыг. Навучальная установа мела правы універсітэта і залежала ад міністэрства народнай асьветы. Яна складалася з трох факультэтаў: лінгвістычнага, вольных навук і багаслоўскага. Самым моцным быў багаслоўскі факультэт, што адпавядала мэтам і задачам арганізацыі акадэміі. Вучыцца тут магла моладзь усіх званьняў і веравызнаньняў, але навучаньне было платным: 600 рублёў асігнацыямі ў год. Штогод тут вучылася 300-400 юнакоў, прыбыўшых з розных мясьцінаў Беларусі, Польшчы і Расеі.

У акадэміі не пасьпелі пачацца заняткі з-за пачатка Айчыннай вайны 1812 годаі захопу французамі Полацка. Сярод выкладчыкаў і студэнцтва акадэміі былі вельмі папулярныя ідэі аднаўленьня Рэчы Паспалітай у межах 1772 года з дапамогаю арміі Напалеона. Шмат хто зь іх супрацоўніцаў з французамі, дапамагаючы ў забесьпячэньні арміі і праводзячы шпіёнскую працу. Аднак пасьля выгнаньня французаў акадэмію не зачынілі, хоць праекты такія былі. І ўжо 8 студзеня 1813 года тут пачаліся заняткі. Штодня студэнты мелі па 6 гадзінаў лекцый, у аўторак і чацьвер - толькі тры, астатні час прызначаўся для заняткаў гімнастыкай, паляваньнем, музыкай і танцамі. Была сабрана тут і вялікая бібліятэка (каля 35 тысяч тамоў)., існаваў музей «выдатнасьцяў». Але асноўны прынцып падбору вучэбных дапаможнікаў і эл....... быў у тым, каб яны уздзейнічалі на ўяўленьне, сьвядомасьць. Так, сярод славутасьцяў музея былі «гаворачая галава», барометар у выглядзе манаха, жывёлы з тымі ці іншымі паталагічнымі адхіленьнямі. Акадэмія мела і сваё выдавецтва, дзе друкаваліся падручнікі, навуковыя трактаты і літаратурныя зборнікі. Выходзіў тут і добра ілюстраваны «Miesiecznik Polocki» - часопіс акадэміі на польскай мове. Тут друкаваліся гістарычныя,

працяг на стар. № 8

Павел Бука. Святлана Новікава. (БНП)

# НАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛІЗМ У СІСТЭМНЫМ АЗНАЧЭННІ

(Даклад на першым з'ездзе беларускіх нацыяналістаў 26-27.11.1994)



### Уступ

Беларуская нацыянальная ідэялогія ня мае дакладнага азначэння. Існуе толькі яе зародкавая форма - беларуская ідэя. Беларуская ідэя фармулюецца ў двух сказах:

1)Першае: існуе асобная беларуская нацыя.

2)Другое: сёняшняя Рэспубліка Беларусь мусіць стаць яе нацыянальнай дзяржавай. Якія асаблівасці беларускай нацыі, як зрабіць дзяржаву беларускай - ідэя не дае адказу.

Беларуская ідэя мае два ўвасабленні: адраджэнцтва і нацыналізм. Ідэя адраджэння з'явілася ў 70-я—80-я гады, калі беларуская нацыя канала. Думка была простая: як існаванне нацыі было перапыненае гвалтоўна - то трэба аднавіць усё дакладна, як было -і нацыя зноў ажыве. Адсюль пошукі ў гісторыі першапачатковай Беларусі, каторую і трэба аднаўляць. Зараз мэта адраджэння дасягнутая: адроджанае ўсё, што было магчыма адрадзіць. Някаторыя з вас могуць запярэчыць, што існуе сёятоя, вартае адраджэння. Так, я сам такое ведаю, і не адно. Аля нацыя ўжо адноўляная. Яна з'явілася не такая, як была. І не такая, як нам бачылася. Аля яна жыве, існуе беларускі рух, дзяржава мае незалежнасць. Далейшае аднаўленне мінулых канструкцыяў таксама карыснае і патрэбнае, бо ўдасканаліць нацыю і дзяржаву. Але мінулае не пакажа нацыі й кожнаму беларусу, што рабіць далей у сёняшнім і будучым свеце.

Адраджэнцы сказалі: трэ' аднавіць нацыю. А што рабіць зараз, калі нацыя ўжо адноўляная. Тут патрэбная новая ідэя, скіраваная ў будучыню. Ідэя канструявання дзяржавы. Ідэя, каторая дасьць працу кожнаму. Кожнаму пакажа, што канкрэтна трэба рабіць дзеля Беларусі. Такая неабходнасць была ўсвядомленая. Пошукі пачаліся ў тыя часы, калі камуністы перайшлі ў наступ і пачалі называць усіх беларусоў нацыяналістамі. Слова прыйшлося да месца, ім назваліся тыя, хто шукаў новага, хто пайшоў далей. Так пачаўся нацыяналістычны рух. І сёння мы, нацыяналісты, сабраліся на свой першы з'езд, каб вызначыць, што такое беларускі нацыналізм, і якая будзе беларуская нацыя.

### Нацыяналізм

Але ніякае аднаўленне мінулага недасць адказу на надзённа пытанне нацыі: куды рухацца далей у сучасным і будучым свеце.

Беларускае адраджэнцтва й нацыяналізм - ня дзьве асобныя ідэялогіі, а ступені развіцця адной, званай усвеце нацыяналізм. Нацыяналізмам завеца ідэялогія будавання і абароны нацыі, абароны незалежна ад няспрыяльных навакольных умоў. І як такі, нацыяналізм - ствральная, станоўчая сіла ў свеце.

Яму працістаяць з аднаго боку - манапалізм, з другога -нядзеяздольнасьць асобных нацыяў. Манапалізм імкнеца да захопу ўсяго свету. Дзеля гэтай мэты ён асімілюе і знішчаене асобных людзей, а цэлыя народы. Таму нацыянальнымманапалізм - найвялікшае злачынства ў свеце. Нацыянальная недзеяздольнасьць згаджаецца на ўласнае знішчэнне, і тым перашкаджае намаганьням нацыяналізму сваёй і іньшых нацыяў. Таму ідэялогіі нядзеяздольнасці - таксама трэба прызнаць злачыннымі.

Беларуская нацыя - дзеяздольная. Беларускі нацыяналізм мае натуральнае імкненьне да абароны беларускага ладу, да ўсталявання беларускага парадку. Аля нацыя можа захавацца толькі даючы нешта навакольнаму свету. Эліны далі дэмакратыю і навуку. Рым - цывільнае права. Нямецкія гарады - магдабурскае права. Вялікае Княства Літоўскае - Статут дзяржавы. Нацыя стварае нешта добрае для сябе і дае гэта самае іншым.

Зараз задача Беларусі - так уладкаваць уласны стан, каб гэта было прыдатнае й іньшым. Гэта й ёсць задача кожнага нацыяналіста. На дасягненьне гэтай мэты й мусіць быць накіраваная канкрэтная дзейнасць і праца кожнага.

Такія канкрэтная задачы ставіць сабе Беларуская Нацыянальна Партыя. Ставіць іх, як партыя адказная, як партыя дзяржаўная. Партыя адказная за ўсю дзяржаву, за ўвесь рух уладкавання дзяржавы.

У дзяржаве ёсць зямля. Ёсць раслінны і жывёльны свет. Ёсць людзі. Ёсць вытворчасць. Ёсць мова, гаворкі, навука, мастацтва. І Беларуская Нацыянальная Партыя ўжо склала і працягвае складаць канкрэтныя праграмы

ўдасканалення ўсіх гэтых узроўняў. Усіх узроўняў, іх узаемадзеянняў і дынамікі. Дзеля складання і ўвасаблення гэтых праграм мы заклікаем да супрацоўніцтва ўсе партыі, адраджэнцкія й іньшыя арганізацыі, прафсаюзы і дзяржаўныя ўстановы. Нацыяналісты гатовыя да супрацоўніцтва.

### Нацыя

Уласны лад Беларускай нацыі вызначаны ў часы Вялікага Княства Літоўскага. І адзначаны Статутам Вялікага Княства, як лад многапляменны і шматканфясійны. Вызначыўшы сувязі і ўмовы ўзаемадзеяння між тутэйшых і нетутэйшых, між розных законаў беларуская нацыя стварылва ўмовы дзеля іх захавання і суіснавання ў межах адной нацыі неабмяжаваны час.

Сёння Беларускі лад вызначаецца патрэбамі будучага ўладкавання, патрэбамі ўзаемадзеяння з іньшымі нацыямі, патрэбамі існавання нацыі ў сучасным і будучым свеце. Таму ідуць спрэчкі пра Беларускі шлях. Пытанне - куды рухацца далей, які абраць узор. Адсюль будзе зразумела, якія змяненні патрэбныя ў беларускім ладзе.

І трэба не проста абраць і аднавіць, трэба ўдасканаліць. Трэба ўдасканаліць беларускую мову. Мову, як спосаб сказаць нешта новае, нечаканае і вельмі неабходнае. Тое, што раней сказаць было не магчыма. Трэба ўдасканаліць беларускае мастацтва, так як гэта зрабілі «Песняры». Трэба ўзняць на новы ўзровень Беларускую тэхніку і Беларускую прыроду.

Гэта й ёсць місія нацыяналізму: усё ўдасканаліць, быць адказным за ўсё.

**Алесь Міхалевіч гутарыць з Паўлюком БУКАМ**






**-- Скажыце калі ласка, якія адрозьненьні вашай партыі ад іншых?**

-- Ведаеце, калі мы стварылі нашую партыю, мы не ставілі асобнай мэты мець нейкія пэўныя адрозьненьні ад тых або іншых партый. Асабіста я мяркую, што бальшыня сёньняшніх партыяў -- гэта сяброўскія гурты, калектывы людзей, што дзейнічаюць у палітыцы. А іх назовы, ідэялогіі, шырока рэкламаваныя адметнасьці ад іньшых -- проста спробы стацца вядомымі й пераканаць, што галасаваць варта менавіта за іх.

**-- Вы лічыце, што ўсе партыі -- проста суполкі палітыканаў, створаныя каб падмануць народ і дарвацца да ўлады?**

-- Не, я кажу іншае. Партыі абіраюць погляды, блізкія сваім сябрам і звычайна шчыра зьбіраюцца іх бараніць. Але яны крыху наіўна мяркуюць, што калі яны пазычаць гатовую ідэалёгію ў Эўропе, або ў Расеі -- дык людзі, хочучы жыць як на Захадзе, або разам з Расеяй, прагаласуюць менавіта за іх. У выніку мы маем як бы дзьве сэрыі партыяў: БСДГ, БХДЗ, НДПБ, Партыя Свабоды -- на Эўрапейскі манер, а Навукова-Прамысловы Кангрэс, СС «Белая Русь», ЛДПБ, камуністы, і нават беларускі варыянт партыі Единства и Согласия -- як у Расеі. Людзі ж у іх не надта ідуць. Мусіць, людзям трэба штосьці іншае.

**-- Але былі ж спробы стварыць нешта адметнае.**

-- Так, былі. І даволі ўдалыя. Напрыклад Партыя Народнай Згоды -- у іх атрымалася вельмі прыстойная партыя. Але распачаць зусім асобную традыцыю яны не здолелі й далучыліся да кола Эўрапейскіх партыяў. Стварыць так адразу зусім новую ідэалёгію --бадай проста немагчыма.

**-- А што прапануеце вы?**

-- Як вы пэўна заўважылі, было многа спробаў прапанаваць беларускаму народу гатовыя ідэялёгіі. Так, як яны бачыліся заснавальнікамі партый. Мы паспрабуем выйсьці на новы ўзровень: адлюстраваць сапраўдныя інтарэсы. Дакладна патрапіць, зрабіць гэта за адзін раз немагчыма. Таму мы не закладалі нейкіх жорсткіх абмежаваньняў, каторыя б зашкаджалі далейшаму руху. Да таго ж у гэтай справе нам можа спатрэбіцца супрацоўнічаць з рознымі партыямі й жорсткая арыентацыя на адрозьненьні ад іх магла б перашкодзіць.

**-- Такім чынам, вашая партыя ня мае ніякіх характэрных рысаў, ніякай пазыцыі, ніякіх адрозьненьняў ад іншых партыяў?**

-- Наадварот, хоць мы не стваралі наўмысна, у нас іх атрымалася можа болей, як ва ўсіх астатніх разам узятых.

**-- Як ведама, сёняшняе нашае грамадзтва й, адпаведна, партыі падзяліліся на два лягеры. Адныя -- за незалежнасьць Беларускай дзяржавы, за дзяржаўнасьць беларускай мовы. Другія -- за аднаўленьне Саюзу, ці ў іншай форме захопу, або, як яны кажуць, уз'яднаньня Беларусі з Расіяй, і за дзяржаўнае двухмоўе. Да якіх партыяў вы належыце?**

-- Гэта відавочна, што зараз толькі адна беларуская мова адказная за лёс Беларусі. Толькі ў беларускай мове магчыма сфармуляваць асновы беларускага жыцьця й беларускай дзяржаўнасьці. Таму нават ворагі беларускае мовы не рызыкуюць выступаюць супраць яе, і нават не кажуць, што яе цалкам магла б замяніць адна расейская мова. Гэта ня проста палітычны разьлік. Гэта прызнаньне таго факту, што беларуская мова --адзіная мова, на каторай размаўляе Беларуская дзяржава.

**-- ???**

-- Мы мяркуем, што Савецкі Саюз не разваліўся, і тым болей ня быў разбураны. Ён проста падзяліўся, так, як дзеляцца клеткі, і атрымалася 15 маленькіх «савецкіх саюзікаў». Зараз зьліць іх у вадно ўжо не магчыма. Гэта было б, як бы матка з'ела сваіх дзяцей -- гэта было б ужо забойства гэтых новых дзяржаў. Таму ўсе размовы пра аб'яднаньне з Расеяй шкодныя, як прапаганда КАНІБАЛІЗМУ. Увогуле, 15 -- заўжды болей і лепей за адзін. Кожная зь дзяржаў можа йсьці разам, а можа -- уласным шляхам. У вадной дзяржаве такое немагчыма. Мы ўсе ўзьняліся вышэй, і варочацца назад няма ніякага сэнсу, ды й не атрымаецца.

**-- Такім чынам, БНП выступаеза незалежнасьць Беларусі й дзяржаўнасьць беларускай мовы. Вы належыце да апазыцыі?**

-- Не, мы партыя не апазыцыйная, мы будуемся як партыя адказная.

**-- ... Нешта не зразумела. У сусьветнай паліталягічнай традыцыі я яшчэ не сустракаў такога азначэньня. Агульна вядома, што такое апазыцыя. Яна крытыкуе ўрад і галасуе супраць яго прапановаў. Канструктыўная апазыцыя будзе падтрымліваць урад у тых пытаньнях, што супадаюць з яе праграмай. А што вы маеце на ўвазе, калі кажаце, што вашая партыя адказная?**

-- Гэта значыць, што мы будзем

Працяг на старонцы № 8

Працяг са старонкі № 7
(гасьцёўня)

падтрымліваць кожную ўладу, што складзецца на Беларусі, незалежна ад нашага асабістага ўдзелу ў ёй.

**-- Такім чынам, вы будзеце ў саюзе з сёняшняй уладай, але ж улада зьмяняецца, і тады вы непазьбежна апынецеся ў апазыцыі.**

-- Мы падтрымліваем кожную ўладу, пакуль яна ўлада, гэта значыць, пакуль яна здольная й спрабуе штосьці на Беларусі ўладкаваць. Таму, каб кагось адхілілі ад улады за злачынствы -- гэта ж таксама ўладкаваньне: злачынцу -- месца за кратамі, а не ў кіраўніцтве. Мы, натуральна, падтрымаем новую ўладу, што зробіць гэтую карысную справу. Мы падтрымаем яе, нават калі па старой памяці нас зноў не дапусьцяць да ўлады.

# Беларускія біржы

Беларускія біржы. У адрозненні ад іншых краін Еўропы іх роля ў нашай гісторыі фактычна незаўважна. Быць можа, таму што традыцыйнай формай гандлю на Беларусі былі кірмашы. Аднак пры падрабязным разглядзе можна ўбачыць сапраўдныя прычыны слабога развіцця біржавага гандлю. Першай на тэрыторыі Беларусі была Мінская лясная біржа, якая паўстала ў 1908 годзе. Яна была арганізавана мясцовымі прадпрымальнікамі, каб упарадкаваць гандаль асноўнымі беларускімі таварамі - лесам і лёнам. Некалькімі гадамі пазней у Віцебску ўзнікла таварная біржа. Але асноўная маса гандляроў успрыняла біржы з перасцярогай, а некаторыя пачалі супрацьдзейнічаць. Як ведама, біржы паказваюць сапраўдную рынкавую вартасць прадукцыі, у чым не былі зацікаўлены буйныя манаполіі, якія скупалі тавары па танным кошце і прадавалі за межамі Беларусі па значна вышэйшым. Менавіта з-за гэтага супрацьдзеяння беларускія біржы не выканалі нават сваёй першаснай задачы - наладзіць рэгулярную інфармацыю з асноўных расійскіх і замежных рынкаў. З пачаткам першай сусветнай вайны гэтыя біржы зусім спынілі сваё існаванне.

Адраджэнне біржаў прыпадае на гады НЭПа. З правалам палітыкі ваеннага камунізма савецкая сістэма адчула неабходнасць неяк упарадкаваць аптовы гандаль. На дапамогу прыйшла праверанная біржавая сістэма. На тэрыторыі Беларусі ўзніклі Мінская, Віцебская і Гомельская таварныя біржы, хаця назваць іх біржамі ў рынкавым сэнсе гэтага слова даволі цяжка. Чатыры пятых усіх продажаў прыпадала на дзяржаўныя ўстановы, і гэта пры тым, што больш за 90 працэнтаў прадпрыемстваў былі прыватныя. Дзяржава зманапалізавала амаль увесь аптовы гандаль, што ёй давала эканамічныя рычагі кіравання. Аднак, нягледзячы на ўсе недахопы, біржы гралі вялікую канструктыўную ролю, напрыклад, забяспечвалі выхад мясцовых тавараў на ўсесаюзны рынак. Цікавым момантам існавання біржаў перыяда НЭПа з'яўляецца ўтварэнне пры іх секцый прыватнага гандлю. Палітыка дзяржаўнага прыцягнення прадпрымальнікаў у тавараварот давала свае станоўчыя вынікі. Многія эканамісты разумелі, што прыватны капітал ігнараваць нельга, бо гэта нічога, акрамя страт, краіне не прынясе. У біржавым гандлі існаваў шэраг пытанняў падаткавага характару для прыватнікаў, што не давала яму нармальна развівацца. Вырашыць гэтыя пытанні і былі прызваны секцыі прыватнага гандлю - папярэднікі сучасных прадпрымальніцкіх арганізацый. Але з пераходам да палітыкі калектывізацыі гэтыя секцыі былі зліквідаваны.

Трэці этап існавання біржаў мы можам назіраць у апошнія гады, але, як і раней, яны на Беларусі прыжываюцца з цяжкасцямі. Як і ў гады НЭПа, іх нармальнаму развіццю перешкаджае дзяржава, устанавіўшы драконаўскія падаткі. І гэта пры тым, што Беларусь мае выдатнае геаграфічнае становішча, якое дазваляе ёй стаць цэнтрам Усходнееўрапейскага гандлю. Ці здолеем мы гэта зрабіць, адкажа час.

**А. Міхалевіч.**

# Полацкая Езуіцкая Акадэмія

пачатак на стар. № 5

крытычныя працы, вершы, пераклады. Нягледзячы на гэтае больш-менш спрыяльнае разьвіцьцё акадэміі, яна была асуджаная ў дзень свайго адкрыцьця. Гэта разумелі нават расейскія чыноўнікі, адзін зь іх - Тургенеў - гаварыў: «Гэта пачатак канца, цяпер яны зробяць столькі спраў, што іх выганяць». Так і адбылося: езуіты пачалі пераварочваць у каталіцкую веру праваслаўных юнакоў як са знакамітых расейскіх сем'яў, так і з простага насельніцтва. Гэта была гульня з агнём, і езуіты, зразумела, прайгралі. 13 сакавіка 1820 года было Высачайша загадана: «Езуітаў як забыўшых сьвяшчэнны доўг не толькі падзякі, але і вернападданніцкай прысягі... выгнаць пад наглядам паліцыі за межы дзяржавы... а Полацкую езуіцкую акадэмію і падначаленыя ёй вучэльні ліквідаваць». Так быў вырашаны лёс акадэміі, якая за нядоўгія гады свайго існаваньня ўсё ж пасьпела зрабіць сябе бессмяротнай праз сваіх выхаванцаў-гісторыка К.Тышкевіча, філосафа А.Доўгірда, астранома Я.Накцыяновіча, палітыка Т.Корсака, мастака В.Вальковіча, пісьменьніка Я.Баршчэўскага.

**Андрэй Самусік**

**Заснавальнік і выдавец — Задзіночаньне Беларускіх студэнтаў**

**Рэдакцыйная калегія: Аляксей Глушко, Ігар Тышкевіч, Андрэй Іваноў, Юрась Бушлякоў.**

**Макет выраблены пры ўдзеле Літаратурна-мастацкае суполкі**